**Ваша газета заўсёды, настаўнікі, з Вамі.**
**Афармляйце падпіску—і ў новым годзе мы будзем сябрамі!**

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №93 (4451) СУБОТА, 19 лістапада 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

# ДУМЫ НАСТАЎНІКА

## Тытулы і рангі

### ДЛЯ ЧЫСТКІ ШКОЛЬНЫХ РАДОЎ АД НЕ ЗУСІМ ПАТРЭБНЫХ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ ЁСЦЬ УЖО АПРАБАВАНАЯ СХЕМА

Не так даўно, выступаючы ў Дзень ведаў перад студэнтамі і выкладчыкамі Мінскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, прэзідэнт зрабіў трапную заўвагу аб негрунтоўнасці "катэгарыяльнасці" ў адукацыі. Ёсць надзея, што трывалага саюза паміж "мяснікамі" і школай (у многіх, напэўна, яшчэ на слыху вобразнае прэзідэнцкае параўнанне настаўніцкіх катэгорый з катэгорыямі ялавічыны) удасца пазбегнуць. І распараджэнне кіраўніка дзяржавы аб навядзенні парадку ў аплаце выкладчыцкай працы будзе выканана не касметычна, а па сутнасці.

Але ёсць і некаторыя апасенні, што катэгорыі ўсё тымі ж людзьмі будуць перайменаваны ў разрады, ступені, рангі...

А што? Гучыць... Настаўнік вышэйшага рангу! Настаўнік нулявога рангу.

Чаму б беларускім настаўнікам, адмовіўшыся ад тытула (катэгорыі), які нагадвае ўсім аб мясным багацці, што сцёрлася з памяці, не прыняць на сябе новы тытул, які б указваў на будучую марскую магутнасць.

Кіраўнікі на месцах ужо, зразумела, ведаюць як размеркаваць у выпадку неабходнасці і рангі. У іх ёсць вопыт, і не маленькі, з катэгорыямі, калі ўмомант перасталі штосьці значыць дыпломы, адзнакі ў іх. І для школы зусім не парадаксальна, што настаўнік з сярэдняй адукацыяй мае катэгорыю вышэйшую, чым той, у каго вышэйшая адукацыя. Ужо прывыклі да абсурду: сярэдняя вышэй за вышэйшую. Аказалася, што мясцовыя "кіраўнікі" лепш вызначаюць узровень падрыхтоўкі спецыялістаў, чым якіясьці дзяржкамісіі ў нейкіх універсітэтах. Вось бы ім даверылі яшчэ і дыпломы выдаваць...

Па якім жа прынцыпе ў свой час наспех створанымі камісіямі размяркоўваліся ў школах катэгорыі? Для таго, каб атрымаць катэгорыю больш высокую, кажуць, патрэбны былі граматы. Пажоўклыя ад часу, відаць, не былі прыгоднымі. А можа, у асобных месцах і яны былі ў хаду — гэта невядома. Хто даваў граматы або вылучаў кандыдатаў у школе для атрымання іх — той і размяркоўваў на падставе гэтых грамат катэгорыі. Як гаворыцца — без варыянтаў.

Пасля таго, як узнагароджанне адбылося, усім з нізкай катэгорыяй была вялікадушна прадастаўлена магчымасць здаваць экзамены (але ўжо ў інстытутах удасканалення) на больш высокую катэгорыю. Хоць потым спрытненька, каб сітуацыя была пад кантролем, буйныя спецы зрабілі абавязковым папярэдні зварот перад гэтымі экзаменамі ў атэстацыйныя камісіі на месцах. Атрымаўшы дазвол мясцовай камісіі, усе жадаючыя накіроўваюцца для здачы кваліфікацыйных экзаменаў у інстытуты ўдасканалення. Потым яны ўжо з вынікамі вяртаюцца ўсё ў тую ж камісію. І ўсё тая ж камісія падумае: прысвойваць катэгорыю — ці не. А хто ў школьнай камісіі самы думаючы — вядома.

Такім чынам, для ўвядзення рангаў і іншых адрозненняў у адукацыі і для адначасовай чысткі школьных радоў ад не зусім патрэбных спецыялістаў ёсць ужо апрабаваная схема. Нізкія разрады ўсё тымі ж кіраўнікамі на месцах даюцца тым, у каго нізкія катэгорыі, вызначаныя ў вядомы час, як і катэгорыі вышэйшыя, усё тымі ж за ўсё тыя ж заслугі.

Чаму б не зрабіць настаўніка ў гэтых адносінах незалежным ад буйных капрызаў дробнага начальства? Хочаш павышаць кваліфікацыю — калі ласка. Паведамі аб гэтым школьнаму кіраўніцтву і здавай кваліфікацыйныя экзамены сур'ёзнай і незалежнай камісіі. А для вызначэння кваліфікацыйнай ступені спачатку трэба было б улічваць і адзнакі ў дыпломах. Выпускнікам жа педагагічных ВНУ наспела неабходнасць, верагодна, разам з дыпломамі ўручаць і кваліфікацыйныя ўкладышы. Гэта ў многім змяніла б адносіны студэнтаў да вучобы, ды і павысіла б прэстыж працы выкладчыкаў у цэлым. Акрамя таго, такім чынам былі б створаны ўмовы для так патрэбнага ўсім саюза паміж сярэдняй школай і вышэйшымі навучальнымі ўстановамі.

Улічваючы неабходнасць спалучэння тэорыі і практыкі выкладання, трэба абавязкова ўвязаць павышэнне кваліфікацыйных разрадаў з вопытам работы. Напрыклад, зрабіць так, каб самыя высокія разрады былі магчымы толькі пры пэўным стажы работы.

Гэтыя пытанні школьнага жыцця актуальныя яшчэ і таму, што тут закранаецца праблема адносін людзей да мясцовай і цэнтральнай уладаў. І калі, зацягваючы як мага тужэй паясы, большасць падтрымлівае тым не менш прэзідэнцкую рацы, то гэта, напэўна, толькі да тае пары, пакуль усе спадзяюцца, што ўсясільны мясцовы бюракрат усё ж будзе нарэшце...

Школьная ж бюракратыя сваёй "стваральнай" працай гатова падтрымаць (а праз некаторы час і здаць) любы кабінет і любых міністраў, асабліва калі распараджэнні зверху лёгка прыстасоўваць да мясцовых патрэб. У гэтых адносінах можна і прыгадаць, як у вокамгненне большасць школ стала беларускамоўнымі, і замест класічнай мовы Купалы і Коласа ў нашых навучальных установах усё больш настойліва загучалі моўныя сурагаты, якія прэтэндуюць на ўзорнасць мясцовых "беларускамоўных" чыноўнікаў. Аб усіх стылістычных навацыях у гэтай галіне нават самі вучні расказваюць анекдоты. Вось прыклад таго, як ідэя нацыянальнага Адраджэння "ва ўмелых руках" на месцах ператварылася ў канцэпцыю нацыянальнага заняпаду.

Каб пазбавіцца ўсялякага чыноўніцкага самавольства — і тым самым умацаваць прэзідэнцкую ўладу, — неабходна ў распараджэнні і ўказы зверху закладваць дэталёвы механізм іх выканання, інакш мясцовыя "стваральныя" сілы ўсё зробяць пад сябе. Ну а тады ўсе яшчэ раз пераканаюцца, што самая найсвятлейшая асоба ў дзяржаве для кожнага з нас — свой уласны начальнік. І прэзідэнту пры гэтым давядзецца служыць ужо не народу, а слугам народным.

Міхаіл ГРЫГАРКЕВІЧ,
настаўнік.

Баранавічы.

## Да якой "лучины" мы імкнемся?

### ЁСЦЬ ВЫЙСЦЕ З КРЫЗІСУ ІДЭНТЫЧНАСЦІ, ШТО АПАНАВАЎ АСОБУ, ПРАМІНУЎШУЮ Ў СВАІМ ДУХОЎНЫМ РАЗВІЦЦІ ЭТАП "Я І ЭТНАС"

Неяк пацікавіўся ў дачкі-чацвёртакласніцы, як ёй падабаецца новы прадмет "Беларусь — мая радзіма". Зморшчылася — "не люблю". Чаму? Настаўніца ж вельмі добрая, спрактыкаваная. Аказваецца, прычына — кепскі падручнік: без малюнкаў, з цяжкімі словамі, увогуле сумная чытанка. І раней чуў нараканні на гэтую кніжку ад настаўнікаў. Але цяпер словы дачкі працялі асабліва балюча. Тлумачаць: падручнік рабіўся спохапам, бракавала сродкаў. Але мяне цікавіць прырода недарэчнай з'явы: чаму за часам аднаўлення гістарычнае памяці народу пішуцца кепскія падручнікі па гісторыі?

Зрэшты, не адно ў падручніках справа. Сутнасць — у нашым успрыманні глыбінных працэсаў рэчаіснасці. Рэчаіснасць, паводле Гегеля, не вычэрпваецца наяўнасцю. Яна ёсць наяўнасць плюс Слова, мроя, міф — абсалютная ідэя рэчаіснасці.

З нетраў сённяшняй рэчаіснасці паўстае пытанне, што вымагае адказу. Ці гатовы мы, каб успрыняць беларушчыну як абсалютную ідэю, імператыў, вызначальную каштоўнасць нашага жыцця?

Калі адказ будзе станоўчым, тады мусім пакласці гэтую ідэю ў якасці падмурка Дому, будоўлю якога, здаецца, урэшце распачалі. Беларусы калісь мелі сваю дзяржаву еўрапейскага кшталту, дзе нарадзілася беларушчына як нацыянальная ідэя. Мы страцілі дзяржаўнасць не па сваёй волі, але беларуская ідэя засталася жыць. Цяпер выглядае на тое, што паводле той жа ідэі нам наканавана адбудаваць сваю краіну. Найперш сваю, а не нейкі там абстрактны, штучны кангламерат дзяржаў, куды нас усё яшчэ пнуцца выштурхнуць зацятыя камуністы з Вярхоўнага Савета.

Адраджэнне — працэс рэалізацыі беларушчыны — мае стацца паважным чыннікам жыцця. Гэта свята далучэння да беларускасці. Яно сілкуецца рамантызмам пачынальнікаў і ўзнёсласцю самой ідэі. Яно ёсць выйсце з крызісу ідэнтычнасці, апанаваўшага асобу, якая прамінула ў сваім духоўным развіцці этап "Я і Этнас". Адраджэнне — пошук апірышча духу. Таму яно ёсць творчасць.

Галоўны вораг творчасці, ейная ракавая пухліна — руціна. Руціна руйнуе памкненні духу, яна здатная спляжыць і Адраджэнне.

На ўрачыстасці, прысвечанай 50-м угодкам вызвалення Беларусі з-пад фашысцкае акупацыі, у нас на Глыбоччыне, як і паўсюдна, шмат прамаўлялі ветэраны. Да помніка палеглым прыйшлі прадстаўнікі БНФ, каб ускласці вянок з бел-чырвона-белай стужкай. І вось адзін прамоўца скарыстаў з нагоды, кінуўшы ў людскі натоўп: да чаго нас кліча БНФ — да адраджэння, г.зн. вярнуцца да "лучины и лаптей"! Пасля гэтага колькі ветэранаў (сярод якіх была і настаўніца!..) падышлі да бэнээфаўцаў ды абазвалі тых фашыстамі.

Перакананы, што тыя ветэраны, якія, мажліва, змагаліся з сапраўднымі фашыстамі, сталіся ахвярамі ачмурэння не адной камуністычнай ідэалогіяй, а і больш сучаснай з'явай — руцінай адраджэння. Спакваля высоўваецца яна на авансцэну духоўнага жыцця. Сапраўды, гляньма ў люстэрка нашае рэчаіснасці — радыё ці тэлевізар. Што беларускае пачуем ці пабачым? Бясконцае трэньканне акадэмічнага аркестра народных інструментаў, фальшыва зробленыя "Вячоркі" ды "Цячэ вада ў ярок". Хай даруюць мне выканаўцы, не іхняя тут віна! Тут істотныя хібы кіраўніцтва сродкамі мас-медыя. Сваёй бязглуздай палітыкай яны ствараюць спрыяльную глебу для пашырэння руціны адраджэння на масавую свядомасць. Малады чалавек кінецца ад гэткага адраджэння прэч і надоўга схаваецца ў нетрах расейскай альбо амерыканскай культуры, так і не спазнаўшы сапраўднага Адраджэння. Прыкра і балюча. Чаму б не даць дзецюку разнастайную духоўную страву: толькі крыху з таго, што ўжо гучыць даўно — і песні Данчыка, Сяржука Сокалава-Воюша, некаторых беларускамоўных рок-гуртоў, "Ліцьвінаў"? Ды не паленавацца, патлумачыць творчасць апошніх, так, як было калісь на "Беларускай маладзёжнай"... І калі з'явіцца ў нас на тэлебачанні нацыянальны кінафільм? Моладзь цудоўна разумее, калі гавораць з ёю шчыра, яна скіравана на ўсё сапраўднае, імкнецца да аўтэнтычнага. Таму і падручнікі ёй патрэбны адмысловыя. Каб цікава было чытаць і з пачуццём гонару за Радзіму. І досыць спасылацца на нястачу сродкаў, пры тых жа выдатках можна напісаць лепшыя кнігі.

Годзе ствараць падручнікі для прафесараў! Пачытайма "Геаграфію Беларусі" Аркадзя Смоліча! Вось дзе ўзор падручніка для моладзі. Не толькі дзеля напаўнення галавы вучня ведамі трэба пісаць, а каб "пабольшала замілавання да свае роднае многапакутнае стараны, такой простай і разам з цудоўнай, нават у часы заняпаду... каб яны паверылі ў яе вялікую будучыню і дзеля будучыні гэтай шчырай працаваць і змагацца пачалі" (А.Смоліч).

Руціна адраджэння апанавала і школу. Правядзём са два-тры "нацыянальныя мерапрыемствы", а ў астатнім паслугоўваемся "великим и могучим". Фальш выразна кідаецца на вочы — марна ляснуць тыя "мерапрыемствы". Лепш бы іх увогуле не рабілі. А калі бяромся, дык не будзем артыстамі (клоунамі), як навучаюць падручнікі педагогікі, а паспрабуем разгледзець вялікую каштоўнасць, надзвычайную цікаўнасць і адказнасць той справы, да якой спрычыніліся. Тады ўсё будзе натуральна — бо шчыра, а шчыра — бо пойдзе знутры, а не з гары — ад педагагічных чыноўнікаў.

Мушу паўтарыцца: беларушчына вымагае творчасці. Калі гэтага не ўсвядомім, то вялікая ідэя і справа знішчацца руцінай. А на месца Адраджэння заступіць адно настальгія, і яно будзе разглядацца як механічнае ўзнаўленне мінуўшчыны, хай сабе і слаўнай. Зрэшты, пераход ад таталітарызму да дэмакратыі ёсць пераход ад руціны да творчасці. Адраджэнне — рух наперад, што, вядома ж, грунтуецца і на дасягненнях продкаў, і на пачуцці настальгіі сучаснікаў. Дамінантай Адраджэння з'яўляецца будоўля, а не рэстаўрацыя. А будоўля паводле ўласнага праекта — творчасць.

Беларушчына патрабуе натхнення. Калі яно ёсць, тады сярод роўнядзі руціны паўстае выспа творчасці. Ёсць на Глыбоччыне гэткая выспачка — Лучайская базавая школа. Завуч, матэматык Юлія Браніславаўнаа Саковіч, і настаўнік рускай мовы Рыгор Леанідавіч Шарыпкін ператварылі школу ў сапраўдны бастыён беларушчыны, якая сталася падмуркам выхаваўчай працы і, здаецца мне, супольным сэнсам жыцця рупліўцаў ды іх паплечнікаў. Усё, што яны робяць — арыгінальна і нестандартна.

У велічнай, пакуль яшчэ ўяўнай, сімфоніі Адраджэння выразна гучыць тэма аўтэнтычнасці чалавечага існавання. Сёння наш дух туляецца ў пошуках аўтэнтычнай беларушчыны. Шукаем яе паўсюдна: у сялянскай хаце, у фальклоры, у архітэктуры, у мове.... Я звяртаўся да розных людзей з пытаннем: з чым яны атаясамліваюць беларушчыну ў мове — з правапісам паводле традыцый Тарашкевіча ці з "наркомаўкай"? Адказ быў адназначным, канешне ж, з першым. Калі чуеш галасы абаронцаў сучаснага афіцыйнага правапісу, карціць пачытаць ім услых цяперашнюю "Нашу ніву". Ці не з'яўляюцца нядаўна змешчаныя ў друку "Высновы правапіснай камісіі" чарговай перамогай руціны? Яны не могуць быць вынікам згоды, бо ў камісіі не прадстаўлены ўсе бакі.

А пакуль будзе трываць няпэўнасць з правапісам, усё больш ды больш людзей будуць далучацца да сакавітай беларускай мовы праз газеты "Свабода" і "Наша ніва".

"Наша ніва" цікавая не толькі з гледзішча мовы. Гэта - важкі аргумент у спрэчцы з тымі, хто грэбуе нашым Адраджэннем.

Вось да якой "лучины" мы імкнёмся.

Іван ХРАПАВІЦКІ,
настаўнік.

Глыбокае.

## І СМЕХ, І ГРЭХ

### ШТО АТРЫМАЕЦЦА, КАЛІ ІНСТРУКЦЫІ СУПЯРЭЧАЦЬ ЗДАРОВАМУ СЭНСУ

У "Інструкцыі аб парадку вылічэння стажу работы па спецыяльнасці асноўных катэгорый спецыялістаў і кіраўнікоў, якія аднесены да галіны "Адукацыя", ад 16.09.94 г. за №253 указана, што ў педагагічны стаж залічваецца і праца дырэктараў (начальнікаў, загадчыкаў), іх намеснікаў па навучальна-выхаваўчай рабоце ва ўсіх пазашкольных установах.

Я ж некаторы час працаваў намеснікам галоўнага ўрача па навучальна-выхаваўчай рабоце санаторнага летніка "Сож". Заўважце: намеснікам галоўнага ўрача. А такой пасады у інструкцыі няма. Ёсць пасада дырэктара, начальніка, загадчыка і іх намеснікаў... І ўсё. Словы "і іншыя" там запісаць забылі.

Вось і прыйшлося мне даказваць галоўнаму бухгалтару, што час маёй працы на гэтай пасадзе павінен стопрацэнтна ўваходзіць у педстаж. Расказваў, што я не лячыў дзяцей, а арганізоўваў заняткі і выхаваўчую пазакласную работу на базе Рэчыцкай сярэдняй школы Чэрыкаўскага раёна. Дарэмна. Галоўны бухгалтар тэлефанавала не толькі ў гарадскі аддзел адукацыі, але і ў абласное ўпраўленне.

Адказ той жа: спачуваем, разумеем, а дапамагчы не можам.

Як кажуць, і смех, і грэх.

Думаю, што ў такім становішчы аказаўся не адзін я.

Якое выйсце? На тое яна і інструкцыя, каб выпраўляць памылкі, уносіць змяненні, карэктывы, якія не супярэчаць здароваму сэнсу.

А што думаеце вы, калегі?

Віктар КУХАРЭНКА,
дэпутат Мінскага абласнога Савета, настаўнік школы-гімназіі №7 Жодзіна.

## Дзённік? Гэта вельмі перспектыўна...

### НЕХТА,АХОПЛЕНЫ ПРАЦОЎНЫМ ЭНТУЗІЯЗМАМ, ВЫРАШЫЎ ПРЫМУСІЦЬ НАСТАЎНІКАЎ ЗАЙМАЦЦА ПАПЕРАТВОРЧАСЦЮ

"Пісанне паперак — Як смактанне цукерак: Хоць у роце не пуста, А наедку няма. Пакеты інструкцый, Пакуты праверак, А справы не грэюць: Нуда і зіма"...

Вось такія радкі з верша Пімена Панчанкі ўспомніліся. Сапраўды, нуда і зіма зараз на душы ў настаўнікаў, хаця толькі ідзе другая чвэрць, і яны, крышачку адпачыўшы, павінны глядзець на жыццё аптымістычна. Дзе там! Не даюць настаўніку пажыць як чалавеку. Маю на ўвазе не толькі заработную плату, але і тыя інструкцыі, загады, што сыплюцца на галовы няшчасных. Апошні загад — весці дзённік класнага кіраўніка — вельмі насмяшыў педагогаў. Толькі хутка іх усмешка ператварылася ў грымасу адчаю пад гнеўным позіркам няўмольнай адміністрацыі. Уяўляю, як зараз некаторыя сядзяць і спісваюць сшыткі пра якога-небудзь Сідарава і яго абыякавых бацькоў ды пра цяжкасці выхавання. Можа, хто і захапіўся напісаннем дзённікаў, толькі мне гэта ідэя не падабаецца.

Настаўніку пісаніны і так хапае, нават цяжка знайсці вольны час для самаадукацыі і асабістага жыцця. І потым, чым гэта прапанова наконт дзённіка абгрунтавана? Хіба нашыя дзеці стануць ад гэтага лепшымі ці горшымі, ці ўзрасце прафесійны ўзровень настаўніка? А можа вырашылі, што на тыя грошы — аж 8 тысяч рублёў — класныя кіраўнікі мала працуюць, дык хай яшчэ і апісваюць усе прыгажосці свайго кіраўніцтва. Як бы там ні было, але ж нехта там, наверсе, ахоплены працоўным энтузіязмам, вырашыў прымусіць настаўнікаў займацца паператворчасцю. Што ж, педагогі ўсё вытрымаюць, не ўпершыню. І дзённік напішуць, і споведзь, а могуць аднавіць эпісталярны жанр і пачаць перапіску з бацькамі, бо тыя зараз зрэдку наведваюць школу — толькі лісты ім і слаць.

А там глядзіш — праверка ў школе. І нанясуць з усіх бакоў класныя кіраўнікі горы планаў, дзённікаў — во як мы добра працавалі...

Ірына ЖДАНЕНЯ,
настаўніца сярэдняй школы №106 Мінска.

## Як Сяргей Іванавіч стаў гарантам баяздольнасці беларускага войска

Паважаная "Настаўніцкая газета"!

Прыемна бачыць Ваш клопат аб адукацыі падрастаючага пакалення, ад якога залежыць будучыня адраджаемай Беларусі. Менавіта ў сувязі з гэтым звяртаюся да Вас за канкрэтнай дапамогай.

У Баршчоўскай сярэдняй школе Добрушскага раёна некалькі гадоў не было настаўніка хіміі і біялогіі. Сёлета школа нарэшце атрымала яго ў асобе Шаўцова Сяргея Іванавіча. Аднак аказалася, што Узброеныя Сілы таксама не могуць без яго абысціся, хаця зрок у настаўніка — мінус 6,5. Яны, напэўна, лічаць, што без прызыву ў армію Шаўцова С.І. і сотні яму падобных нам пагражае смяртэльная небяспека замежнага ўварвання.

Я ж мяркую, што беларускаму войску пагражае небяспека менавіта ад прызыву недавучак. Праслужыўшы ў арміі 26 гадоў, я маю падставу так заяўляць.

Хачу заўважыць, што ў ваенкамаце зварот загадчыка Добрушскага райана праігнаравалі.

З павагай настаўнік Баршчоўскай сярэдняй школы
Леанід Іванавіч МАЛАШАНКА,
маёр запасу.

АД РЭДАКЦЫІ. Спадзяёмся, што ў Міністэрстве абароны падзяляюць слушную думку аўтара пісьма і прымуць меры, каб Сяргей Іванавіч Шаўцоў застаўся працаваць у школе.

## Навуковая работа па-за законам?

### ВА ЎСЯКІМ РАЗЕ НІХТО НЕ ХОЧА АПЛАЧВАЦЬ НАВУЧАННЕ Ў ЗАВОЧНАЙ АСПІРАНТУРЫ АКАДЭМІІ НАВУК

Думаю, што на старонках нашай газеты можна і трэба абмеркаваць сітуацыю, у якую трапіў я.

Працую намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце і настаўнікам біялогіі ў школе №10 Гомеля.

У гэтым годзе я паспяхова здаў экзамены ў завочную аспірантуру пры Інстытуце заалогіі Акадэміі навук Беларусі. Для таго, каб мяне залічылі ў аспірантуру, неабходна накіраваць у Інстытут гарантыйнае пісьмо аб аплаце навучання. Аспірант мае права на некаторыя льготы (аплачваемы месяц для навуковай работы і інш.)

Гутарыў па гэтым пытанні ў аблуна. Там развялі рукамі: у іх няма палажэння аб аспірантуры. У Міністэрстве адукацыі таксама не абрадавалі: аказваецца, гэта палажэнне "нібыта" адмянілі... Значыць, настаўнікі, якія займаюцца навуковай працай, у нашай краіне нікому не патрэбны і ўвогуле па-за законам...

Няўжо мы настолькі з'ехалі з глузду?

Аляксандр САВАРЫН.

## ШТО СТРАЦІЦЬ НАСТАЎНІК, ЯКІ НЕ ПАЛІЧЫЦЬ ПАТРЭБНЫМ ПАДПІСАЦЦА НА СВАЮ ГАЗЕТУ НА ПЕРШАЕ ПАЎГОДДЗЕ 1995 ГОДА

**ЁН НЕ БУДЗЕ МЕЦЬ АПЕРАТЫЎНАЙ, НАЙБОЛЬШ ПОЎНАЙ ІНФАРМАЦЫІ**
пра жыццядзейнасць адукацыйнай сістэмы;
пра змены ў навучальных планах і праграмах;
пра новыя падручнікі;
пра педагагічныя інавацыі;
пра тое, над чым працуе Міністэрства адукацыі і навукі.

**ЁН БУДЗЕ ПАЗБАЎЛЕНЫ АДЗІНАЙ У КРАІНЕ ГАЗЕТЫ, НА СТАРОНКАХ ЯКОЙ**
гучыць самы шырокі дыяпазон думак і меркаванняў педагогаў і навукоўцаў,
вядуцца дыскусіі па актуальных праблемах адукацыі і выхавання,
расказваецца пра педагагічны вопыт, эфектыўнасць якога праверана практыкай,
даюцца кансультацыі спецыялістаў па разнастайных педагагічных, метадычных, прававых і іншых пытаннях.

**ДЫК ЦІ ВАРТА ЭКАНОМІЦЬ 4.680 РУБЛЁЎ (ПАЎГАДАВАЯ ПАДПІСКА) ЦІ 2.340 РУБЛЁЎ (ПАДПІСКА НА КВАРТАЛ) І НЕ ПАДПІСАЦЦА НА "НАСТАЎНІЦКУЮ ГАЗЕТУ"? ПАСПЯШАЙЦЕСЯ НА ПОШТУ! ПАДПІСКА ЗАВЯРШАЕЦЦА 25 ЛІСТАПАДА.**

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63867** (індэкс выдання)

**«Настаўніцкая газета»** Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

---

ПВ | месца | літар

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **63867** (індэкс выдання)

**«Настаўніцкая газета»**

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

# НГ-ІНФАРМ

## Намалюйце "маску" для гадзінніка

### МІНСКІ ЗАВОД "ЭЛЕКТРОНІКА" СУМЕСНА З "НАСТАЎНІЦКАЙ ГАЗЕТАЙ" ПРАВОДЗІЦЬ КОНКУРС МАЛЮНКАЎ НА ЛЕПШАЕ МАСТАЦКАЕ АФАРМЛЕННЕ ДЗІЦЯЧЫХ ГАДЗІННІКАЎ

"Электроніка" вырабляе іх каля 20 мадыфікацый з каляровымі кветачкамі, шарыкамі, казачнымі героямі і іншай вясёлай "дэкарацыяй" на цыферблатах. Аўтары дэкору — заводскія мастакі. І вось дырэкцыя вырашыла: а чаму б самі дзеці не падказалі, якімі хочуць бачыць яны "свае" гадзіннікі.

І завод разам з нашай газетай аб'явіў конкурс, які пачынаецца ўжо з сённяшняга дня і прадоўжыцца роўна месяц.

**УМОВЫ ЯГО ВЕЛЬМІ ПРОСТЫЯ.** Уявіце электронны гадзіннік — круглы, квадратны, авальны і г.д., адным словам, які вам больш даспадобы — з аконцам, г.зн. лічбавым індыкатарам. Акрамя гэтага невялікага прамавугольніка, на ўсёй цыферблатнай прасторы можа смела гуляць ваша мастакоўская фантазія. Малюнкі можна выконваць любых памераў і любым "інструментам" — фарбамі, алоўкамі, фламастэрамі...

Вось і ўсё. У конкурсе могуць прыняць удзел і дарослыя.

Вынікі падвядзе ўважлівае кампетэнтнае журы ў складзе мастакоў з аддзела знешняга афармлення.

Які сюрпрыз чакае пераможцаў, мы скажам напрыканцы, а пакуль прапануем чытачым некаторую, як нам здаецца, карысную і цікавую інфармацыю пра "Электроніку" ў цэлым. Усё ж, як ні кажы, у многіх з нас на левай руцэ бязгучна "цікае" добра вядомая ў краінах СНД прадукцыя знакамітага завода, які ўваходзіць у склад навукова-вытворчага аб'яднання "Інтэграл". А расказалі пра ўсё вашым карэспандэнтам дырэктар па маркетынгу Валерый Іванавіч БАКУМЕНКА і начальнік аддзела рэкламы Юрый Аляксандравіч ПУЗЕВІЧ.

Дык што ж выпускае і пастаўляе на рынак "Электроніка"? У асноўным, канешне, наручныя гадзіннікі больш сотні відаў. Сыходзяць з канвеера і невялічкія элегантныя будзільнікі — меладычныя, гучныя, зручныя ў карыстанні: хочаш — пастаў яго на стол, хочаш — пакладзі ў кішэню, нават пад падушку. Апошняя навінка — прыгожы, "пад золата", масіўны гадзіннік з бранзалетам. Па сутнасці гэта нават не гадзіннік, а гадзіннікі, бо ў адным корпусе іх два — кварцавы, са стрэлкамі, час якога дубліруецца лічбавым індыкатарам.

Карацей, гадзіннікі на любы густ і, адпаведна, разлічаны на любога пакупніка: кошт "Электронікі" ад 5 да 50 тысяч рублёў.

Трэба сказаць, што і пасля распаду СССР попыт на прадукцыю завода застаецца ўстойлівым — за год калектыў вырабляе каля 3 мільёнаў гадзіннікаў. Краіны Балтыі на першым часе сваёй самастойнасці сувязі з "Электронікай" рэзка парвалі і "пусцілі" на рынак гадзіннікі Японіі, Тайваня, Ганконга, але іх вытворцы ніякіх гарантыйных абавязацельстваў перад пакупнікамі не нясуць. І ў поле зроку прыбалтаў зноў трапіла надзейная "Электроніка".

Дарэчы, у Мінску — адзіны ў СНД выпрабавальны цэнтр электронных гадзіннікаў. Тут, па просьбе маскоўскіх гандляроў, праходзілі "экспертызу" для атрымання сертыфіката якасці нават сусветна вядомыя "Сейко".

А яшчэ "Электроніка" прапануе спажыўцам тэлефоны—настольныя і апараты-трубкі. Неўзабаве стануць на паток лічбавыя апараты, вытворчасць спецыяльных падстанцый для якіх наладжана ў Віцебску і Запарожжы.

На жаль, лічы, спынены выпуск персанальных камп'ютэраў МК-90 і ПК-300 — тых самых, якімі зацікавілася кітайская дэлегацыя на чале з другім паслом. Справа ў тым, што крышталёвыя індыкатары да іх набываць у Японіі стала праблематычна — у завода дэфіцыт абаротных сродкаў.

Апошнім часам у "Электронікі" з'явіліся дзве новыя вытворчыя тэматыкі — бытавая і медычная.

Першая прадугледжвае выраб лічыльнікаў халоднай, гарачай вады і газавых, якія нам неўзабаве настойліва прапануюць усталяваць на ўсіх нашых кранах і краніках. У продажы ўжо ёсць нямецкія і амерыканскія, але можна не сумнявацца, што айчынныя будуць па-за канкурэнцыяй: кошт вадзяных імпартных лічыльнікаў у пераліку на валюту — 22—23 долары, газавых — ажно 95! "Электроніка" ж мяркуе, што яе прыборы (электронныя, а не механічныя замежныя) будуць каштаваць у межах 15 долараў.

А цяпер наконт медычных вырабаў. Днямі дырэктар завода сп. Вярбіцкі вярнуўся з Даніі, дзе падпісаў кантракт па пашырэнні аб'ёмаў ужо дзеючай сумеснай беларуска-дацкай вытворчасці аднаразовых інсулінавых шпрыцоў і прыстасавання для хуткага вызначэння працэнта глюкозы ў крыві.

Акрамя таго, у вытворчай наменклатуры ёсць прыбор для вымярэння арытміі сэрца, індуктар тэмпу для спартсменаў.

Магчыма, хтосьці з чытачоў ужо карыстаўся электронным тэрмометрам, які неўзабаве прыйдзе на змену ртутным (нідзе ў свеце яны больш не вырабляюцца). Па-першае, ён экалагічна чысты, па-другое, дазваляе змераць тэмпературу цела за 3—4 хвіліны.

Але вернемся да конкурсу, дакладней, да таго, якія сюрпрызы чакаюць пераможцаў.

Усталяваны чатыры прызавыя месцы — тры для дзяцей і адно для дарослых. Акрамя таго, што лепшыя малюнкі, безумоўна ж, стануць "маскамі" серыйных дзіцячых гадзіннікаў, пераможцы будуць іх першымі ўладальнікамі. Прычым імянны надпіс, зроблены на заводзе, засведчыць ваша аўтарства.

Малюнкі можна дасылаць на два адрасы: 220064, Мінск, завод "Электроніка" або 220034, Мінск, вул. Захарава, 42, рэдакцыя "Настаўніцкай газеты".

На канверце рабіце паметку: Конкурс "Маска" для гадзінніка.

Вынікі конкурсу будуць падведзены да канца снежня. Імёны пераможцаў і малюнкі-лаўрэаты "Настаўніцкая газета" змесціць у святочным навагоднім нумары.

І нарэшце — просьба да настаўнікаў, класных кіраўнікоў і кіраўнікоў мастацкіх гуртков і студый: калі ласка, пастарайцеся, каб пра конкурс даведаліся і паймелі ў ім удзел як мага больш дзяцей.

Конкурс пачаўся! Спяшайцеся!

Анатоль АЎРАМЧЫК,
Юрый БОНДАРАЎ (фота).



## ВЕСТКІ

У Брэсце прайшоў абласны конкурс педагагічнага майстэрства настаўнікаў фізічнай культуры. Па выніках раённых, гарадскіх, занальных конкурсаў вылучаны 9 фіналістаў, якія потым правялі паказальныя ўрокі ў сёмай брэсцкай школе. Пераможцам стаў настаўнік Ястрабельскай школы-інтэрната Баранавіцкага раёна Леанід Кабяк.

* * *

Магілёўскі аблвыканкам прыняў рашэнне стварыць у Магілёве адукацыйны комплекс на базе класічнай гімназіі, тэхнічнага ліцэя і машынабудаўнічага інстытута. У яго склад увойдзе таксама Цэнтр дзіцячай творчасці (для дзетак з трохгадовага ўзросту). Мяркуецца тэставы адбор найбольш здольных дзяцей і іх падрыхтоўка для працы ў галінах навукі і культуры.

* * *

Мінскую школу №74 з паглыбленым вывучэннем французскай мовы наведалі пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь Клод Жаліф з жонкай і аташэ па лінгвістыцы французскага пасольства Поль Рамановіч. Госці паглядзелі канцэрт на французскай мове, пабывалі ў школьным этнаграфічным музеі. Даведаўшыся пра праблемы школы, яны паабяцалі дапамагчы ў набыцці падручнікаў па французскай літаратуры.

* * *

Рэспубліканскі інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі працягвае набор слухачоў на курсы перападрыхтоўкі. Асобы з вышэйшай адукацыяй змогуць атрымаць другую спецыяльнасць: выкладчыка фізікі, матэматыкі, гісторыі, інфарматыі, беларускай мовы і літаратуры і інш.

* * *

Міжнародная канферэнцыя "Адукацыя, павышэнне кваліфікацыі і рэгіянальнае развіццё" пройдзе напачатку снежня ў Мінску. У ёй прымуць удзел прадстаўнікі ўсіх краін СНД, госці з краін Балтыі, а таксама з Англіі, Балгарыі, Чэхіі і іншых краін свету.

Галіна СІДАРОВІЧ.

## РЫХТУЕЦЦА ДА ДРУКУ ДРУГІ НУМАР ЧАСОПІСА "ЛИДЕРСТВО И МЕНЕДЖМЕНТ В ОБРАЗОВАНИИ"

Часопіс разлічаны на шырокае кола чытачоў, якія працуюць у адукацыі і цікавяцца праблемамі школы.

Галоўная мэта часопіса — папулярызацыя новых форм, метадаў і падыходаў да кіравання адукацыяй.

У другім нумары часопіса будуць надрукаваны артыкулы па тэорыі і практыцы кіравання школай: прававых, эканамічных аспектах арганізацыі дзейнасці школы.

**У сувязі з вялікай колькасцю заяў жадаючых атрымаць першы нумар часопіса рэдакцыя вырашыла паўтарыць тыраж. Для тых, хто хоча набыць першы нумар часопіса (кошт аднаго нумара 5140 рублёў), просім звяртацца на адрас: 220004, Мінск, вул.Віцебская, 21-а. Рэдакцыя часопіса "Лидерство и менеджмент в образовании", тэл. (0172) 26-77-23. Наш разліковы рахунак у Мінску АКБ "Приорбанк" №2468381.**

# НГ-ІНФАРМ

ПЕРШАЕ ІНТЭРВ'Ю НА НОВАЙ ПАСАДЗЕ

## Мікалай ФЯСЬКОЎ: "Ніякіх рэформ толькі дзеля рэформ"

**Фяськоў Мікалай Сцяпанавіч назначаны на пасаду начальніка ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі.**

**Фяськоў М.С. нарадзіўся 6 мая 1947 года ў г.п. Кочышча Ельскага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і служачых. З сярэбраным медалём закончыў сярэднюю школу. У 1971 г. атрымаў вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці "Геаграфія" ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Пачынаў працоўную дзейнасць на пасадзе старшага піянерважатага. З 1970 г. працаваў настаўнікам геаграфіі, намеснікам дырэктара школы па навучальна-выхаваўчай рабоце, а праз два гады — дырэктарам Качышчанскай сярэдняй школы Ельскага раёна. У 1987 г. пасля заканчэння аспірантуры абараніў дысертацыю і атрымаў вучоную ступень кандыдата педагагічных навук.**

**Выбіраўся народным дэпутатам СССР па Мазырскай тэрытарыяльнай акрузе. Працаваў у Вярхоўным Савеце СССР намеснікам старшыні камісіі Савета Саюза па бюджэту, плану і фінансах.**

**З 1992 г. працуе ў Міністэрстве адукацыі. Пасада да назначэння — галоўны эксперт упраўлення аналітычнай работы і перспектыўнага развіцця адукацыі.**

**Закончыў поўны курс навучання ў Акадэміі народнай гаспадаркі пры ўрадзе Расійскай Федэрацыі па праграме для кіраўнікоў і спецыялістаў дзяржаўных устаноў.**

**Жанаты. Мае дарослых сына і дачку.**

**— Мікалай Сцяпанавіч, віншуем з назначэннем на новую пасаду і спадзяемся на кароткае інтэрв'ю для нашых чытачоў.**

— Дзякуй.

**— З чаго пачнеце сваю працу на новай пасадзе?**

— Ведаеце, так атрымалася, што маё назначэнне супала з падрыхтоўкай агульнаадукацыйнай школы да рэфармавання зместу і тэхналогіі адукацыі і павелічэння тэрмінаў навучання да 12 гадоў. Пачынаецца вельмі вялікая і адказная праца па аналізу стану адукацыі, усебаковым вывучэнні магчымасцяў дзяржавы і грамадскасці ў рэфармаванні сістэмы адукацыі і вызначэнні напрамкаў перабудовы школы. Упраўленне агульнай сярэдняй адукацыі ў гэтай важнай справе павінна выступіць арганізатарам і каардынатарам як даследаванняў, так і эксперыментальных прапрацовак вынікаў гэтых тэарэтычных даследаванняў.

Разам з тым, ва ўпраўленні працягваецца вельмі важная праца па комплексным навучальна-метадычным і нарматыўным забеспячэнні дзейнасці агульнаадукацыйных школ. Сваю ролю ў гэтай справе бачу ў вызначэнні перспектыўных напрамкаў дзейнасці калектыву ў адпаведнасці з асаблівасцямі часу.

Ідэальны варыянт, на мой погляд, гэта калі любы нарматыўны дакумент апярэджвае практыку школьнага жыцця і не супярэчыць не толькі логіцы развіцця школы, а з'яўляецца прыступкай паступовага ўдасканалення ўсёй сістэмы адукацыі.

**— На памяць прыходзяць 80-я гады, калі рэфармавалася савецкая школа. На жаль, гэтая рэформа не змагла якасна змяніць школу. Ці не атрымаецца так і на гэты раз?**

— Па-першае, плануецца, што любыя кардынальныя змены ў змесце і тэхналогіі навучання будуць укараняцца толькі пасля дастатковага навуковага забеспячэння. Што дазволіць пазбегнуць памылак.



Па-другое, не ставіцца мэта дасягнуць пэўных вынікаў у кароткія тэрміны. Усялякае ўкараненне навацый — толькі пасля іх эксперыментальнай апрабацыі. Прыемна адзначыць, што асобныя педагагічныя калектывы краіны прапануюць ужо свае школы ў якасці эксперыментальных пляцовак.

Па-трэцяе, няма падстаў адмаўляцца ад таго станоўчага, што было ў савецкай школе. Міністр адукацыі і навукі заўсёды падкрэслівае, што нацыянальная беларуская школа павінна ўзяць усё тое карыснае, што маюць савецкая, еўрапейская і амерыканская школы. "Ніякіх рэформ толькі дзеля рэформ" — вось галоўны дэвіз магчымых змен у школе.

**— Як Вы можаце ацаніць становішча школы сёння?**

— Школа цяпер, як і ўсе бюджэтныя ўстановы, у вельмі складаным становішчы. Кіраўнікоў у першую чаргу хвалююць пытанні фінансавага забеспячэння, каб своечасова падрыхтаваць паліва да зімы ці разлічыцца за электраэнергію і іншыя паслугі, без якіх ніводная школа не можа працаваць. Грошай жа на іншыя мэты катастрафічна не хапае. Не ў поўнай меры набываюцца літаратура для школьных бібліятэк, навучальна-наглядныя дапаможнікі, розныя прэпараты для лабараторных работ і інш. Гэта, безумоўна, уплывае на якасны бок навучальнага працэсу. Паправіць жа такое становішча школы пры эканамічным крызісе вельмі цяжка.

**— Якое ж выйсце?**

— На вялікі жаль, яно па-за межамі сістэмы адукацыі. Непрацуючыя прадпрыемствы не могуць задаволіць патрэбы бюджэту, за кошт якога працуе школа. Таму эфектыўная дзяржаўная рэформа эканомікі — гэта быў бы самы станоўчы вынік і для адукацыі. Разам з тым, гэта не значыць, што патрэбна чагосьці чакаць. Пэўныя захады ў гэтым напрамку робяцца.

**— Напэўна, цяжкае фінансавае становішча школы стварае праблемы не толькі гаспадарчага характару?**

— На самай справе гэта так. У апошні час школу, у тым ліку і гарадскую, сталі пакідаць кваліфікаваныя кадры, якія перш за ўсё не задаволены ўмовамі матэрыяльнага забеспячэння. Гэта вельмі трывожны сімптом. Так доўга працягвацца не можа. Інакш за кароткі тэрмін можна згубіць той інтэлектуальны патэнцыял, які складваўся гадамі. Ёсць толькі два шляхі вырашэння гэтай праблемы.

Першы — больш лёгкі, на першы погляд, і менш эфектыўны па сваіх выніках ці нават зусім не эфектыўны — гэта розныя спосабы прымусу асобы да працы дзяржавай.

Разам з тым, трэба дадаць, што ў сучасных умовах дэмакратызацыі гэта вельмі складаны ў ажыццяўленні шлях.

Другі — улічваючы асаблівасці рынку працы — зацікавіць асобу ўмовамі працы і адпаведнымі стымуламі матэрыяльнага характару. Гэта, на мой погляд, эканамічна больш выгадны шлях вырашэння кадравай праблемы ў адукацыі не толькі сёння, але і ў перспектыве.

**— Мікалай Сцяпанавіч, Вы хоць і працавалі ў Міністэрстве адукацыі і навукі, аднак ва ўпраўленні агульнай сярэдняй адукацыі — новы чалавек.**

— Я зразумеў, вы хочаце ведаць, як складваюцца ў мяне адносіны з супрацоўнікамі ўпраўлення. Трэба адзначыць, што гэта адно з вядучых упраўленняў Міністэрства не толькі па сваіх функцыях, але і па прафесійнай падрыхтоўцы і вопыту працы яе супрацоўнікаў. Прыемна працаваць з такімі людзьмі. Узаеміны з калегамі прыносяць сапраўднае задавальненне. Напэўна, такія адносіны калег да працы, як і станаўленне самога калектыву, — гэта вынік працы маіх папярэднікаў, якіх добра ведаюць як у міністэрстве, так і сярод педагагічнай грамадскасці. А вось адносіны супрацоўнікаў упраўлення да мяне ... Гэта, прабачце, пытанне не па адрасе. Час пакажа.

Гутарку вёў
Міхась АНІСЕНКА.

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

**На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

---

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## САМАЯ КАРОТКАЯ ДАРОГА ТАЯ, НА ЯКОЙ ЛЮДЗІ ІДУЦЬ НАСУСТРАЧ АДЗІН АДНАМУ

"Крок насустрач!" — так называецца валанцёрская беларуска-амерыканская ініцыятыва, якая арганізавана сумеснымі намаганнямі амерыканскай фірмы Сіці Хоун Інтэрнешнл пад кіраўніцтвам прападобнага айца Пола Мора і беларускага фонду "Надзея-экспрэс".

Крок насустрач адна адной, а менавіта гэта павінны зрабіць жанчыны Беларусі, каб прыняць удзел у дабрачыннай працы на карысць усяго нашага грамадства, у якім сёння пакутуюць хворыя людзі, дзеці-інваліды, пажылыя пенсіянеры, ветэраны вайны і працы, дзеці-сіроты, мнагадзетныя маці. На жаль, дзяржава наша сёння не ў стане дапамагчы ім...

Валанцёрская ініцыятыва "Крок насустрач" створана для аказання дапамогі такім людзям дабрачыннай працай, добраахвотнымі грашовымі сродкамі.

Вы маеце магчымасць далучыцца да жанчын, якія працуюць ужо на дабрачыннасць. Вы можаце перамяніць жыццё людзей вакол вас і сваё асабістае такой дабрачыннай працай на карысць грамадства — паведамляецца ў рэкламным буклеце гэтай добраахвотнай жаночай ініцыятывы.

Ва ўтульным пакоі Рэспубліканскага Палаца піянераў і школьнікаў я сустрэлася са спадарынямі Юліяй Бураўкінай, Аксанай Трухан, Халідой Ягоравай — сябрамі аб'яднанай беларуска-амерыканскай каманды ініцыятывы "Крок насустрач", а таксама з валанцёрам (валанцёр — добраахвотнік) амерыканкай Сарай Спэнсер.

— Амерыка імкнецца падтрымліваць людзей, якія прысвячаюць сваё жыццё дабрачыннай дапамозе хворым, нямоглым людзям, — пачынае размову Юлія Бураўкіна. — Дзяржава заахвочвае такую дзейнасць: напрыклад, вызваляе фірмы, што займаюцца дабрачыннасцю, ад уплаты пэўных падаткаў, самым розным чынам узнімае аўтарытэт гэтых людзей у грамадстве.

— Мноства школьнікаў, студэнтаў, бізнесменаў, хатніх гаспадынь, людзей самага рознага ўзросту ў Амерыцы займаюцца валанцёрствам, — уключаецца ў гаворку Сара Спэнсер. — Я асабіста з самага дзяцінства працую на дабрачыннасць: наведвала бальніцы, дамы састарэлых, дапамагала падлеткам, неграм пазбавіцца ад прыёму наркотыкаў, удзельнічала ў шматлікіх валанцёрскіх акцыях. У нас ёсць шмат грамадскіх арганізацый, якія займаюцца дабрачыннасцю. Пасля знаёмства з Полам Морам я ўключылася ў праграму Сіці Хоуп Інтэрнешнл і стала прыязджаць у Беларусь як валанцёр. Мне вельмі падабаюцца беларусы, вы гасцінныя і добразычлівыя людзі.

— Ужо больш як тры гады амерыканская арганізацыя Сіці Хоуп Інтэрнешнл пад кіраўніцтвам Пола Мора аказвае гуманітарную дапамогу Беларусі лекамі, прадуктамі харчавання, вітамінамі, — працягвае размову Юлія Бураўкіна. — Так, ужо трэцяя партыя прадуктаў харчавання для маленькіх дзяцей праз дабрачынны фонд "Надзея-экспрэс" размеркавана па 170 арганізацыях. І вось новая ініцыятыва, распрацаваная сумесна з нашым фондам, якая прадугледжвае далучэнне да валанцёрскай працы соцень, тысяч добраахвотнікаў з ліку жанчын, дзяцей, студэнтаў. У праграме ініцыятывы "Крок насустрач", што пачалася 22 кастрычніка і будзе працягвацца ўвесь 1995 год — наведванне бальніц, дамоў інвалідаў, школ-інтэрнатаў з мэтай аказання дапамогі хворым, пажылым людзям, дзецям як канкрэтнай працай, так і матэрыяльна, калі ёсць у каго з валанцёраў такая магчымасць. І нездарма мы сустрэліся з вамі ў Рэспубліканскім Палацы піянераў і школьнікаў. Тут нашы сябры і памочнікі. Палац ужо даўно падтрымлівае і дапамагае Полу Мору ў яго дабрачыннай дзейнасці. Так, сумесна з амерыканскімі валанцёрамі супрацоўнікі Палаца разам з юнымі артыстамі рыхтуюць цікавую, захапляльную пераднавагоднюю праграму для хворых дзяцей з уручэннем ім навагодніх падарункаў.

— Ужо адгукнуліся на наша запрашэнне ўдзельнічаць у валанцёрскай працы сотні дзяцей, падлеткаў, студэнтаў. Яны хочуць дапамагаць нам, — гаворыць Аксана Трухан. — Усіх тых, хто возьмецца за актыўную дабрачынную дзейнасць, чакаюць невялікія падарункі ад Сіці Хоуп Інтэрнешнл.

Жаночая добраахвотная ініцыятыва імкнецца ўзвысіць жанчын маральна, разбудзіць іх духоўны патэнцыял, далучыўшы да валанцёрскай справы дзяцей, дапамагчы ім у выхаванні сябе як асоб.

Давайце будзем шчырымі: міласэрнасць, спагада да бліжняга заўсёды былі ў кожнага беларуса ледзь не галоўнымі якасцямі характару. Успомнім нашу знакамітую талаку — калі ўся вёска збіралася на будоўлю хаты пацярпеламу ад пажару аднавяскоўцу. А як актыўна дапамагалі мы, і дарослыя і дзеці, яшчэ ў нядаўнім мінулым, збіраючы пасылкі для галадаючых дзяцей Афрыкі, армянскаму народу, які пацярпеў ад землятрусу...

Наспеў час паглядзець вакол сябе і ўбачыць побач суседа, які ледзьве перасоўвае хворыя ногі, бабулю, закінутую ўласнымі дзецьмі. Давайце ж выратуем сябе самі і гэтым выхаваем сабе будучыню, нашых дзяцей, якія будуць лічыць за злачынства пакінуць без догляду сваіх бацькоў.

Ірына КУЛІКОЎСКІХ.

P.S. Настаўніцы, выхавальніцы, педагогі, студэнты! Калі вы жадаеце займацца валанцёрскай справай і далучыць да яе дзяцей, паведаміце нам па тэл. 27-12-84. Мы чакаем вас.

